Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкратар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі .. ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 1 (89) Вільня, 11-га студзеня 1936 г. Год 4-ты.

## Магчымасьць сусьветнага пажару.

### Італьянска-Абісінская вайна

яшчэ трывае, і трудна сказаць, калі яна кончыцца. Некаторыя палітыкі баяцца, што яна можа пашырыцца на‛т на ўсю Эўропу, а іншыя варожаць яшчэ горшае — сусьветны пажар.

Зразумела, што падставы да такое варажбы ёсьць, бо ж фактычна ўвесь сьвет зьвязаны адным ланцугом: выключнае панаваньне Італіі ў Абісініі пагражае перадусім інтарэсам Англіі ў Эгіпце, а часткова і францускім у афрыканскіх калёніях. Нічога тады дзіўнага, што Англіі і Францыі перадусім залежыць на згашэньні афрыканскаі а пажару, тым балей, што ангельска-француска-італьянскае непаразуменьне ў кожнай хвіліне можа выкарыстаць Нямеччына.

Калі-ж браць пад увагу Нямеччыну, што беспасярэдня асабліва трывожыць Францыю, то справа будзе выглядаць яшчэ больш паважна, бо адначасна ахопіць амаль увесь сьвет. Як ведама, акром Эўропы існуе яшчэ і так званы

### Далёкі Ўсход

з Азіяй, Кітаем, Японіяй ды ангельскімі і амэрыканскімі азіяцкімі калёніямі, а таксама савецкі Сібір.

Усё гэта, як бачым, зьвязвае амаль увесь сьвет адным палітычна - гаспадарчым ланцугом.

У той хвіліне, калі-б Англія ўцягнулася ў вайну з Італіяй, і змушана была-б увесь свой флёт кінуць на Міжземнае мора,

### Японія

мела-б разьвязаныя рукі ня толькі ў Кітаі, але таксама ў Манджурыі і Манголіі, бо па сваім баку мела-б папершае Нямеччыну, а падругое ўсе антысавецкія дзяржавы, якія не зацікаўлены Азіяй. Магчыма, што ў гэткім прыпадку Японія нейк бы дагаварылася і з Амэрыкай, не закранаючы яе інтарэсаў у Кітаі, а тады сьмела магла-б распраўляцца з найбольшым сваім ворагам на Далёкім Усходзе—з

### Савецкай Расеяй.

Як ведаем, ужо ў сучасны мамэнт Саветам прышлося моўчкі пагадзіцца з тым, што зрабіла Японія ў Манджурыі, і на Сахаліне.

Але таксама не сакрэт, што Японія ў Азіі мае шмат шырэйшыя пляны, у якія ўваходзіць і Сібір, што канчальна б'е ня толькі па гаспадарчых інтарэсах Расеі, але і пасягае на тэрыторыю СССР.

З гэткім намерам Японіі трэба вельмі паважна лічыцца, бо-ж не на вецер Японцы кінулі падчас рэвалюцыйнага хаосу ў Кітаі кліч:

### „Азія для Азіятаў!“

Кліч гэты трэба ўважаць за генэральную лінію ўсей сучаснай і будучай палітыкі японцаў.

У доказ слушнасьці такога пагляду паклікаемся на голас амэрыканскага прафэсара Повэна—які, ў сваёй кнізе пад назовам „Гісторыя Азіі“, яшчэ перад утварэньнем Манджурыі ды задоўга перад ліквідацыяй камунізму ў Кітаі, сьцьвердзіў, што на аб'еднаньне азіятаў пад кіраўніцтвам Японіі трэба глядзець, як на рэч зусім магчымую Прыймаючы-ж пад увагу, што рэалізацыя вышэйўспомненага японскага пляну няміпуча давядзе да вайны з Саветамі, закранаем сёньня гэнае пытаньне ў сувязі з агульна-напружанай палітычнай атмосфэрай у Эўропе.

Да вышэйнакрэсьленай акцыі пхае Японію перадусім малая тэрыторыя ў параўнаньні з вялікай лічбаю насельніцтва, а з другога боку разбудова савецкай прамысловасьці ў Сібіры, каторая пагражае японскаму промыслу на кітайскім і мангольскім рынках.

Зразумела, што як Японія, так і Саветы зусім ясна ўяўляюць сабе ствараўшаеся палажэньне на Далёкім Усходзе, і дзеля гэтага абедзьве дзяржавы энэргічна прыгатаўляюцца да магчымай сутычкі. Прыгатаваньні выклікаюць і з аднаго і з другога боку радыкальныя зьмены ня толькі ў структуры гаспадарчага жыцьця гэных дзяржаваў, але адначасна ўплываюць і на міжнародную палітыку.

Масква, шукаючы сабе саюзьнікаў, змушана была вырачыся працы Камінтэрну на Усходзе і ў калёніях, каб не дразьніць Англію, Францыю і Амэрыку, ды наагул што раз то больш

### зьмяншае сваю рэволюцыйнасьць.

У абедзьвюх дзяржавах адначасна разьвіваецца ў шалёным тэмпе

## Ластоўскі расстрэляны.

Вацлаў Ластоўскі—б. прэм'ер беларускага ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі, як падае „Кур'ер Віленскі“ з дня 6.I.1936 г., у Саветах расстрэляны. Сталася гэта, быццам, у Адэсе каля двух гадоў таму назад.

## Ўваружэньне ды будова стратэгічных чыгунак.

Японія арганізуе свае ваенна-стратэгічныя базы ў Манджурыі, злучаючы іх чыгункамі з портамі Карэі-Юкі і Расін, разбудоўваючы апошнія на прыпадак ваенных опэрацыяў на сухапуцьці.

Флёт як марскі, так і паветраны (самалёты) атулены асаблівай ўвагаю японскага Ураду. Адначасна вядзецца бязупыннае абучэньне тэхнічных кадраў арміі, каторая ў значнай меры змотарызавана. Ня менш інтэнсыўна, а можа яшчэ з большым напружаньнем

### уваружаюцца і Саветы,

стараючыся, як мага, падняць вартасьць сваіх базаў на Далёкім Усходзе. Уздоўж манджурскае граніцы на Амуры збудованы цэлы рад абаронных пазыцыяў, на найбліжэйшых тылах арганізованы правіянтныя і амуніцыйныя базы, каб шыбка можна было-б запэўніць усё неабходнае для далёкаўсходняе арміі. Абедзьве пяцілеткі выкарыстаны Саветамі пераважна для разбудовы цэнтраў вялікай прамысловасьці за Уралам—у Сібіры і Туркестане. І трэба сказаць, што ў гэтай галіне дасягнены вялізарныя рэзультаты. Магнітагорск, Чэлябінск, Сьвердлоўск, Орск, Кузбас, Кузьнецк, Новасібірск, Барнаул, Ангарастрой, Тэмір—вось новаразбудованыя магутныя цэнтры савецкае прамысловасьці за Уралам,

Побач з гэтым ідзе ня менш энэргічная разбудова ваеннастратэгічных шляхоў,як,прыкл., так званы. Турксіб (Туркестанска-Сібірская чыгунка) і „вялікі паўночна марскі шлях“, які цягнецца ад Архангельска да Берынгавага праліву.

Усё вышэйзазначанае на фоне эўрапэйскае сытуацыі, ў сувязі з італьянска-ангельскім конфліктам, дае падставы для ўсякіх магчымасьцяў. Адно толькі трэба тут сьцьвердзіць, што наколькі сусьветны ланцуг, каторым, як бачым, зьвязаны амаль усе дзяржавы, можа выклікаць сусьветны пажар, на толькі ён адначасна зьяўляецца і тормазам для неабдуманых выступленьняў паасобных адзінак. *Эра.*

## „Ці земляроб можа і ці павінен падняць сваю прадукцыю?“

На такую тэму 8 сьнежня г. г. праз радыё сказаў прамову п. міністар земляробства У. Панятоўскі. Першае пытаньне, якое сабе міністар паставіў і на каторае пастараўся даць адказ, было такое: „ці можа быць падвышана прадуктыўнасьць нашых гаспадарак, якая да гэтага часу была так нізкай у параўнаньні з большасьцьцяй краёў Эўропы, і ці гэта зробіць дадатні ўплыў на палажэньне земляробаў, у той час калі і дасюлешнея прадукцыі часта нельга збыць, а цэны нізкія з прычыны цэразмернай колькасьці тавараў на рынку; дык ці ня лепей было-б абмежаваць прадукцыю?“.

Перш чым адказаць на гэтае пытаньне, міністар пастараўся акрэсьліць фактычны стан польскае прадукцыі ад 1930 па 1934 год. Аказваецца, што за гэты час узрасла толькі прадукцыя збожжа і бульбы, але, затое, абнізілася прадукцыя жывёлы, а таксама прадукцыя буракоў, стручковых расьлінаў хмелю і тытуню. Колькасьць-жа люднасьці за гэты час узрасла блізка на 3 мільёны. У нармальных варунках з узростам жыхарства мусіла-б узрасьці адначасна і запатрэбаваньне на спажывецкія прадукты. Тымчасам, у выніку гаспадарчага крызысу, кансумцыя гарадоў і прамысловых цэнтраў не зьмянілася. Земляробжа. ў пагоні за грошам, які яму быў патрэбны для аплаты падаткаў і працэнтаў за крэдыт, мусіў выкідаць на рынак як найбольш свайго прадукту, не пакідаючы яго часта сабе і сваей сям'і. Паўстала такім чынам з боку вёскі, т. зван. „галодная падача (podaż)“ і галодны экспарт (вываз заграніцу) збожжа.

У 1934 годзе было найболей вывезена заграніцу і на гэты вываз Дзяржава выдала так-жа найболей даплат. І ўсё гэта дзеялася, — кажа міністар, — у той час, калі вёска пасылала ў школу галоднае дзіця, а ў войска—кепска выжыўленага рэкрута. Апрача таго міністар сьцьвердзіў, што агульныя ўмовы збыту — аплачальнасьць земляробства — залежаць у вялікай меры не ад самых земляробаў, але ад агульнае гаспадарчае палітыкі Дзяржавы. Ня глердзячы, аднак на гэта, лічыць ён для земляроба магчымым. каб ён падняў сваю прадукцыю хаця-бы на столькі, каб, незважаючы на якія-б то ня было абставіны, мог у дастатачнай меры выжывіць сваю сям'ю.

„У земляробскай тэхніцы няма граніцаў інтэнсыўнасьці“ — кажа міністар і ў гэтым напрамку знаходзіць вялікія магчымасьці, для дробных гаспадарак. Далей міністар падкрэсьлівае, што падняць прадукцыю можна ня толькі ўлажэньнем у гаспадарку новых капіталаў. але таксама і павялічэньнем колькасьці працы.

Спосаб-жа паднясьця цэнаў на земляробскія прадукты, шляхам абмежаваньня гэтае прадукцыі, міністар лічыць абсалютна шкодным, бо тая надвышка гэтага роду прадукцыі, якую маем цяпер на рынку, паўстала ад недаяданьня, і пры нармальным спажыцьці

яна сама сабою згіне.

Земляроб, паводле міністра, цяпер павінен працаваць так, каб мог здаволіць усьцяж растучыя ўласныя патрэбы, патрэбы мясцовага рынку і патрэбы экспарту.

Рэасумуючы ўсе свае вывады, міністар, у канцы сваей прамовы, падае земляробам наступныя кароткія рады:

1) Павялічыць прадукцыю, каб можна было забясьпечыць перадусім сваю сям'ю усім тым, што сама гаспадарка для сям'і даць зможа.

2) Арганізаваць гаспадарку так, каб можна было ў ёй зьмясьціць усю тую працу, якую сям'я можа выканаць, хаця-б гэты дадатковы ўклад працы, паводле дасюлешніх звычаяў, быў-бы непатрэбны, бо няма нічога правільнейшага за тое, што хто свае цэлае працы ня ўложыць, той і чакаць дапамогі ніадкуль ня мае права.

3) Прадукцыю на продаж належыць укладаць па магчымасьці рознастайна і прызначаць на продаж прадукты як найбольш дасканалыя, каштоўныя, якія паглынулі шмат працы.

4) Прыкладаць як найболей увагі да справы арганізацыі збыту і да супольных земляробскіх стараньняў, каб абмінуць пасрэднікаў прадажы.

## Пару слоў аб картэлях.

Картэлямі называюцца ўмовы паміж прамыслоўцамі ці гандлярамі, якія маюць на мэце пазбавіцца ўзаемна канкурэнцыі, гэта знача, утрымаць цэны на ўласныя тавары на пажаданай для сябе вышыні. Згэтуль становіцца зразумелым, чаму цэны некаторых прамысловых прадуктаў усьцяж высокія, у той час, калі цэны рэшты прадуктаў абнізіліся напалову, а то і больш.

Сёньня, пад уплывам пэўных дзейнікаў, і картэлі пачалі пакрысе абніжаць цэны. Справа картэляў ужо даўно патрабуе перагляду, бо ад'емны іх уплыў на гаспадарчае жыцьцё ўжо даўно заўважаны. а астатнімі часамі пачалі яны ў Польшчы расьці як грыбы.

Паводле даных Галоўнага Статыстычнага Бюра ў Польшчы ў 1935 годзе было зарэстравана 216 картэлёвых паразуменьняў і 108 міжнародных, у якіх прыймалі ўдзел польскія фірмы. Сёньня ў Польшчы скартэлізаваны амаль усе прамысловыя вырабы.

Калі-ж мы пацікавімся тым, як гэтая справа выглядала колькі год таму назад, то акажацца, што, прыкладам, 1 студзеня 1928 году лік краёвых картэляў абазначаўся цыфраю 61. Як бачым, за такі кароткі час, лік картэляў узрос больш чым у 3 з пал. разы. Зьявішча гэтае бязумоўна нездаровае і ў справе картэляў ужо дзе што робіцца. Нядаўна ў гэтай справе выйшаў дэкрэт Пана Прэзыдэнта, паводле якога права разьвязваньня картэляў ужо з 1 сьнежня належыць да Міністра Промыслу і Гандлю. Раней разьвязаць картэль можна было толькі пасьля адпаведнай пастановы картэльнага суду.

## Агульны сход Беларускага Навуковага Т-ва.

29 сьнежня ўжо мінулага 1935 г. меў адбыцца агульны сход Беларускага Навуковага Т-ва. Трэба зазначыць пры гэтым, што за некалькі дзён перад сходам некаторыя сябры Т-ва атрымалі ад ўраду паведамленьні аб тым, што ўрад выключыў іх з ліку сяброў дзеля таго, быццам, што яны не ўнясьлі сяброўскіх складак. У гэтым, здавалася-б на першы пагляд, ня было-б нічога дзіўнага, каб не адно „але“.

Справа ў тым, што адны сябры, якія не ўнясьлі складак, былі выключаны, а другія, якія *таксама* ня ўносілі складак, атрымалі запросіны на сход. Каб ня быць галаслоўным, назаву іх па прозьвішчам: гр. гр. Кароль, Манкевіч і Сакалова — выключаны, а гр. гр. Б. Кіта, П. Шчастны і В. Русак, каторыя таксама не плацілі складак — ня выключаны.

Калі выкрылася такая „двайная бугальтэрыя“ ўраду Навуковага Т-ва, для ўсіх стала ясна, што галоўныя „дзеячы“ Т-ва займаюцца зусім не навукай, і дзеля гэтага нават тыя, каго „łaskawie“ пан Луцкевіч прасіў, не пайшлі на так арганізаваны Сход.

Толькі адзін гр. Б. Кіта, будучы прыпадкова ў Вільні, а маючы запросіны, зайшоў пацікавіцца так скліканым сходам і.. „без драки попал в большія забіяки“, бо прысутны там урад у асобах: гр. гр. Луцкевіча, Трэпкі, Самойлы, Грышкевіча, Шкелёнка ды Я. Станкевіча ўхапіўся за гр. Кіту, як за апошнюю дошку ратунку. Аказваецца, што апрача пералічанага ўраду ды аднаго кандыдата рэвізыйнае камісіі, гр. Грабінскага, *больш ніхто з сяброў на Сход ня прыйшоў.* Такім чынам нельга было на'т выбраць старшыню сходу, бо ж ані сябры Ураду, ані сябры Рэвізыйнае Камісіі, зразумела, ня могуць быць адначасна і старшынёю агульнага сходу.

І вось тут яны і ўхапіліся за прыпадкова заблудзіўшага, відаць, туды гр. Кіту, ды і выбралі яго на старшыню агульнага сходу.

Зразумела, што ад гэтуль ужо пачынаецца *трагі-камэдыя: агульны сход* Навуковага Т-ва —„osóby urzędowe“ і адзін сябра — ён жа „старшыня“, г. зн., таксама ў пэўнай меры „osoba urzędowa“...

На парадку дня справаздача ўраду, рэвізыйнай камісіі, абсолюторыюм, зразумела, для ўраду, выбары новага ўраду ды рэвізыйнае камісіі і ўрэшце неадлучны плян „працы“ на будучыню—ўсё, як належыцца, плюс вольныя прапазыкі. Але на кожным сходзе павінен быць яшчэ і сэкрэтар сходу; гэтага ўжо прышлося выдэлегаваць з ліку сяброў ураду, бо-ж на сэкрэтара трудна было выбраць нейкага завочна (няпрысутнага). Ну і выдэлегавалі гр. Я. Станкевіча. Далей ўсё пайшло, як па маслу: Старшыня ўраду гр. Луцкевіч прачытаў старшыні сходу гр. Кіту справаздачу ўраду, а відаць, адсутныя сябры далі абсолюторыюм ураду, нічога ня ведаючы аб справаздачы; пасьля гэтага гр. Луцкевіч паінфармаваў гр. старшыню сходу Б. Кіту, што хоць ён, г. зн., гр. Кіта таксама незаплаціў сяброўскіх складак, але ён, гр. Луцкевіч, „міласьціва“ Кіту амнісьціраваў, а вось гр. гр. Караля, Сакалову-Лекант і Манкевіча выключыў, бо яны апрача гэтага яшчэ зьяўляліся сябрамі рэвізыйнае камісіі...

Трэба сказаць, што гр. гр. Кароль, Сакалова-Лекант і Манкевіч нічога ня ведалі аб тым, што зьяўляюцца Рэвізыйнай Камісіяй Т-ва, бо-ж іх выбралі завочна, ня пытаючыся аб іх згодзе, на сходзе 15. IV. 1934 г., з якога ўспомненыя асобы дэмонстрацыйна выйшлі. Урад з свайго боку не ўважаў, чамусьці, патрэбным паведаміць гр. гр. Караля, Сакалову-Лекант і Манкевіча аб выбары іх у Рэвізыйную Камісію Т-ва.

Старшыя Сходу гр. Кіта хацеў запратэставаць супроць таго, што ўрад выключыў з ліку сяброў **надзорчы над урадам-жа орган** — рэвізыйную камісію, але яму не далі выказацца і перайшлі да прачытаньня заявы гр. Астроўскага аб выступленьні яго з ліку сяброў Т-ва. Пасьля гэтага гр. Луцкевіч унёс прапазыцыю выключыць гр. Астроўскага бяз права павароту. Тут ізноў старшыня сходу яшчэ больш рэзка запратэставаў супроць выключэньня таго, хто сам выключыўся, але тады ўжо закрычалі ўсе разам: „што, Вы протэстуеце? Протэстуйце, мы гэта ведаем, Вы нават салідарызуецеся з ім і гэта нам ведама! пачакайце, мы Вам яшчэ пакажам! мы толькі гуманныя і г. д., а Вы што тут?“ Пры гэтым падняўся такі гвалт, што старшыня сходу стаў пагляд аць на дзьверы, як бы тут уцячы, але гэта заўважыў гр. Луцкевіч і супакоіў раз'юшаных сваіх кумпанаў.

Перайшлі да іншых пунктаў парадку дня і ўсе вырашылі аднагалосна, „выбраўшы“ і ўрад і рэвізыйную камісію, і нават кандыдатаў усіх у ліку штось каля 13 асоб. (Тут гр. Луцкевіч застасаваў відаць ужо дзесяцерную бугальтэрыю). На заканчэньне, калі старшыня сходу ўжо хапіўся за клямку, гр. Луцкевіч затрымаў яго, каб падпісаць пратакол. Але тут ужо клямка была ў руках старшыні, і ён на адрэз адмовіўся падпісваць тое, што яшчэ не напісана. На гэтым і кончылася афіцыяльная частка агульнага сходу Беларускага Навуковага Т-ва.

Ня думайце, грамадзяне, што гэта нейкі фэльетон. Не, нажаль, гэта самая праўдзівая, хоць і вельмі сумная, нашая сапраўднасьць. У гэнай кароценькай справаздачы няма ані каплі пераўвялічэньня — наадварот, хіба, дзякуючы скарочаньню, усё вельмі злагоджана.

Сьмешна, але адначасна як жа-ж сумна!

Кіраўнікі Навуковага Т-ва сваім недарэчным паступаньнем давялі да таго, што нават на пару гадзін адзін раз на працягу двох гадоў (апошні агульны сход Т-ва быў 15. IV. 34 г.) не маглі сабраць, хоць-бы для людзкога вока, 3-5 сяброў!

Калі-ж кончацца ўрэшце гэныя фікцыі? Дзе-ж гэта бывае, каб урад якраз перад сходам выключыў з ліку сяброў рэвізыйную камісію in corpore? Якім гэта правам?

У гэтай справе будуць Вас судзіць ня выбраныя вамі чужынцы, якіх можна чмуціць living розным няіснуючымі фактычна сувязямі з нейкімі міфічнымі організацыямі, а ўсё беларускае грамадзянства, якое добра знаецца на вашых штучках!

А суд яго будзе справядлівы, хуткі і бязьлітасны.

Беларускія грамадзкія арганізацыі, у якіх раней працаваў гр. Луцкевіч з сваёй кумпаніяй, ужо ачысьціліся ад „гумарыстыкі“, — цяпер чарга за Бел. Навуковым Т-вам.

*Аглядчык.*

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

## Мастацкая выстаўка Пётры Сергіевіча

8-га студзеня г.г. зачынілася выстаўка абразоў беларускага мастака гр. Пётры Сергіевіча. Гэта была *першая самастойная* выстаўка, абыймаючая сабой 5 гадоў мастацкай працы (1930—35). Выстаўка—рэтроспэктыўная, якая дае магчымасьць прасачыць творчую эволюцыю маладога мастака. Сабрана было каля 50 абразоў, маляваных алейнымі хварбамі і 40 рысаваных партрэтаў. Амаль палова твораў была гр. Сергіевічам пазычана ад розных асобаў, якія ў яго іх купілі раней. Такім чынам, колькасна выстаўка прадстаўлялася салідна. Наўрад ці хто і з „старэйшых“ мог-бы выказацца такой мастацкай прадукцыяй.

У двух вялікіх пакоях у доме № 7 пры вул. Міцкевіча ўсе сьцены былі завешаны вельмі густоўна абразамі. Наагул, арганізацыя выстаўкі была добрая і заслуга ў гэтым у вялікай меры належыць гр. Ч. Будзьку, які самаахвярна памагаў мастаку.

Але ў справаздачы аб выстаўцы мы перадусім пацікавімся зьместам яе. Пяць гадоў бязумоўна кароткі пэрыяд часу, каб на падставе вынікаў працы ў гэтым часе выявіць поўны характар творчасьці мастака, тым-балей, што гэта пачаткавы пэрыяд, першы этап. З другога боку, аднак, у першых прапростках творчасьці якраз найвыразьней зарысоўваюцца яе далейшыя напрамкі, вызначаюцца яе далейшыя шляхі. На творах Сергіевіча мы найлепш можам уявіць творчае „бражэньне“, творчае раздарожжа, з якога паволі вызначаецца цьвёрды, сталы грунт. Мы гэта пабачым ня толькі ў зьмесьце, але і ў спосабах і сродках.

На падставе таго, што даў беларускаму мастацтву Сергіевіч, мы можам адзначыць тыя шляхі, якімі ён ідзе.

Перадусім кідаецца ў вочы *партрэтызм*, як характэрная і яскравая рыса творчасьці Сергіевіча. Галава, твар, яго выражэньне, — вось у якіх тэмах чуецца свабодна мастак. Але побач з партрэтамі мы шмат бачым композыцыяў, у якіх ужо маем цэлага чалавека. І ў іх, у композыцыях, цэлы Сергіевіч. Бо партрэт—гэта падгатаваўчая ступень у творчым разьвіцьці нашага мастака. На партрэтах мастак бліжэй падыходзіць да істоты сваёй творчасьці.

У *композыцыях* — сапраўдны размах, творчы палёт; у композыцыях — вызначаюцца творчыя магчымасьці і далі Сергіевіча.

*Матыў буры, трывогі*—адна з асаблівасьцяў композыцыяў мастака. Марак сярод бушуючага мора, селянін, які гарэ поле перад зьбліжэньнем буры; званар, які звоніць на трывогу ў водблеску зарава пажару — найвыразьнейшыя выяўленьні гэтага матыву. — Але і такія абразы, наскрозь гістарычныя па зьместу, як Усяслаў і Кастусь Каліноўскі хаваюць у сабе гэты матыў. Прырода выяўлена цалком у гэтым настроі. Неба ніколі мы не пабачым ясным, дрэвы, — ніколі ў спакоі.

А людзі? Людзі якраз наадварот — выяўляюць столькі сілы, энэргіі і моцы, што той, хто бачыць абраз, сам расьце і мацнее. *Дынамічны элемэнт* — характэрная рыса фону, на якім выяўляецца сіла і моц людзей. Трывога, творчыя сполахі—няменш уласьцівы і самому Сергіевічу. Гэта—мастак, які ўмее аглянуцца назад, умее пераацэніваць пройдзеныя шляхі.

*Ідэалізацыя сілы* — гэта другі матыў у творчасьці Сергіевіча. І мы не памылімся, калі скажам, што гэтая сіла вырастае з зямлі, з звычайнай сялянскай беларускай зямлі. Мы далей пабачым, як моцна зьвязаны з ёй Сергіевіч.

Ад ідэалізацыі — адзін шаг да сымболізму. Аднак, у Сергіевіча мы яго амаль зусім ня бачым. У яго няма мастацкіх рэбусаў, як у Язэпа Драздовіча, які рэпрэзэнтуе ў нашым сучасным мастацтве якраз гэты кірунак. Наадварот, *нахіл да натуралізму* прабіваецца ўсюды.

Ува ўсіх амаль композыцыях гэтыя два матывы выступаюць, узаемна дапаўняючыся і пераплятаючыся.

Пэйзажаў у Сергіевіча амаль няма. Калі і малюе мастак абразы прыроды, то або на іх вучыцца, або зарабляе грошы на жыцьцё.

——

Выстаўку зьведала шмат асобаў, пераважна з мастацкіх сфэраў. Зьведаў выстаўку і шмат хто з віленскай беларускай інтэлігенцыі.

Пару мімаволі падслуханых гутарак:

— Так — тут ёсьць талент, сапраўдны талент.

— Ну, напр., Сьледзінскі, усё ёсьць... культура, але таленту... а тут...

— Культуру Сергіевіч апануе, грунт — талент..

— Гляньце, гляньце! проста Лясьнікова пасада з „Новай Зямлі“. І коні, і гусі, і індыкі...

— Нейкі расеец аб гэтых індыках выразіўся:

— Индюшек вырезать!

——

Выстаўка, аднак, не дала ўсяго, што зрабіў Сергіевіч. Праўда, на століку былі разложаны працы з галіны графікі. Сергіевіч вядомы кожнаму беларускаму выдавецтву і шырокай публіцы сваімі, мамастацку выкананымі, загаловачнымі

# З працэсу аб забойстве міністра Перацкага.

9 сьнежня. Сьведка Хая Вронцбэрг паказала, што з верасьня месяца да пачатку сьнежня 1933 г. ў яе наймаў пакой нейкі малады чалавек, паказаўшы пашпарт, выданы львоўскім магістратам на імя Дацькі. Ён сказаў, што прыехаў у Варшаву вучыцца. Сьведка на судзе пазнала Дацьку ў асобе абв. Лэбэдя.

Паказаньні Хаі Вронцбэрг пацьвярдзіў на судзе сьведка Г. Вронцбэрг, яе муж.

Д. Бубен, асьпірант паліцыі, сьведчыць, што ён браў удзел у пагоні за забойцаю, знайшоў пальто на сходах дому № 15 на вул. Окульнік; у кішані быў жоўта-блакітны бант, гэткі, якія рабіліся украінскімі арганізацыямі для сьвяткаваньня розных урачыстасьцяў. Сьведка браў удзел у рассьледаваньні і атрымаў сэкрэтныя ведамасьці, што забойцы трэба шукаць сярод украінцаў. Пазьней сьведка быў пасланы ў Галічыну. Вярнуўшыся ў Варшаву, ён рабіў вобыск у Ванды Квецінскай, яна-ж — Гнаткіўская. У Галічыне сьведка даведаўся, што ў колах ОУН спрачаліся аб тым, хто выдаў загад аб забойстве міністра Б. Перацкага: заграничны цэнтр, ці кіраўнік мясцовага аддзелу ОУН?

Абарона дамагаецца звальненьня сьведкі ад службовае прысягі, каб ён мог назваць свайго інфарматара. Аб гэтым выходзіць спрэчка паміж абаронай і пракурорам. Суд адхіляе просьбу абароны.

Сьведка Сьвенціцкая адмовілася адказваць суду папольску, хоць гаварыць папольску ўмее. Суд аштрафаваў Сьвенціцкую на 200 злотых і пастанавіў пасадзіць яе на адзін дзень у карцэр, бо сьведка С. знаходзіцца пад арыштам і ў суд прыведзена была з сьледчага вастрогу.

Сьведка А. Горніцкі таксама адмовіўся даваць паказаньні папольску, але, пасьля пастановы суда аштрафаваць яго і арыштаваць на 10 дзён, згадзіўся гаварыць папольску і заявіў, што на сьледзтве яго нібыто тэрарызавалі паліцыянты, трымалі 4 дні на марозе і ён сьведчыў проці некаторых абвінавачаных, цяпер-жа ад гэтых паказаньняў сваіх ён адмаўляецца. Далей сьведка прабуе сказаць палітычную прамову; дзеля таго, што папярэджваньні прэзэса суда яго ня стрымліваюць, суд загадвае вывясьці сьведку з залі.

Па прапазыцыі пракурора, суд устанаўляе фальшывасьць заявы сьведкі Горніцкага аб тасаваньні да яго тэрору.

Выясьнілася, што сьведку гэтага дапытвалі на сьледзтве 7-га верасьня (1934 г.), калі маразоў ня бывае. Суд агалошвае паказаньні сьведкі з уступнага сьледзтва і прымае прапазыцыю пракурора пацягнуць сьведку Горніцкага да карнай адказнасьці за фальшывае абвінавачаньне паліцыі ў тэрарызаваньні яго і за заклік, сказаную ім на судзе прамоваю, да праступленьняў.

10-га сьнежня суд выслухваў сьведкаў абвінавачаньня. Першым выступаў сьведка А. Чыжэвіч, паліцыянт, які сачыў за работаю сяброў ОУН у Кракаве, паміж іншым за Карпынцам і Клымышыным. Сьведка пазнае сярод абвінавачаных Карпынца, Лэбэдя і Клымышына. Ён прыпамінае, што ў Карпынца была ўладжана ляборатoрыя. У часе другога вобыску 19-га чэрвеня 1934 году ў кватэры Карпынца была знойдзена іржавая бляшанка, якая аказалася часьцю бомбы, пакіненай забойцаю міністра Перацкага.

11-га сьнежня. Сьведка Штойко кажа, што ён знаў Лэбэдя, але не прызнаецца, што сам належаў да ОУН, ня гледзячы на тое, што ў суд ён прыведзены з вастрогу, дзе адбывае кару за прыналежнасьць да гэтае арганізацыі. Ён адмаўляецца ад сваіх паказаньняў, даных на ўступным сьледзтве, і кажа, што даваў тады паказаньні, каб ухіліцца ад далейшага допыту, а таксама і таму, што быў пэўны ў прабываньні Лэбэдя заграніцай, дзе паказаньні сьведкі проці яго не маглі-б пашкодзіць яму.

Пракурор задае сьведцы некалькі пытаньняў і суд, пасьля гэтага, агалошвае паказаньні Штойкі з уступнага сьледзтва. На далейшыя пытаньні пракурора, сьведка ў сваіх паказаньнях блутаецца, або зусім не адказвае.

Затым суд выслухаў сьведку Маеўскага, які адбывае кару за удзел у працы ОУН.

13-га сьнежжя. Сьведка Юры Ставіцкі, сэкрэтар міністра ўнутраных справаў, паказаў, што у дзень забойства міністра, каля гадз. 2 ое, яго выклікаў да тэлефону вядомы дзеяч, малады нацыяналісты, д-р Мосдорф, і прасіў, каб яму далі аўдыенцыю ў міністра ў гэты-ж самы дзень. Калі сьведка адказаў, што, з прычыны зьезду ваяводаў, міністар вельмі заняты і праз гэта зможа даць яму аўдыенцыю толькі ў панядзелак ці ў аўторак на будучым тыдні, дык Мосдорф заявіў, што гэта ўжо будзе позна.

Адвакат Ганкевіч прапануе прачытаць паліцэйскія дадзеныя пра асобу Мосдорфа, якія ёсьць у актах справы. Суд ня прымае пад увагу гэтае прапазыцыі.

Адвакат Ганкевіч у сувязі з паказаньнямі сьведкі Ставіцкага, ўносіць прапазыцыю, каб сьведка Сіткоўскі, інспэктар паліцыі, вытлумачыў, чаму 15 чэрвеня, пасьля забойства мін. Перацкага, д-р Мосдорф зьнік з Варшавы, пры гэтым дасюль невядома, дзе ён прабывае.

Пракурор Рудніцкі заяўляе, што зусім няма асноваў зьбівацца з простае дарогі, устаноўленае сьледзтвам. Хай сабе нават дакладна будзе ўстаноўлена, што д-р Мосдорф у той самы дзень зьнік. Ён, як відаць, меў на гэта свае прычыны, якія ня маюць нічога супольнага з забойствам мін. Перацкага.

Суд адхіліў прапазыцыю абароны выклікаць інспэктара Сіткоўскага.

Адвакат Ганкевіч прапануе тады выклікаць у суд, як сьведку, д-ра Мосдорфа дзеля выясьненьня, якое значэньне мелі словы, сказаныя ім 15 чэрвеня 1934 году праз тэлефон: „Гэта будзе ўжо позна“?

Пракурор Жэленьскі заяўляе, што словы пракурора Рудніцкага адносяцца і да гэтае фразы, а дзеля гэтага просіць пакінуць гэту прапазыцыю абаронцы бяз увагі.

*(Працяг будзе).*

# Чаму гэтак шмат сэквэстратараў?

(Дакончаньне. Гл. № 34 (86) „Р.К“)

*Падаткі, экзэкуцыйныя кошты, заплаты* і *квітанцыі.* Кожная сядзіба на вёсцы мае сягоньня аплочваць гэткія падаткі:

a) зямельны (gruntowy) падатак,
b) соймікавы, або г. зв. дарожныя аплаты,
c) валасны (gminny),
d) страхоўка (składka ogniowa).

Усё гэта трэба плаціць у дзьве раты: вясною і ўвосень.

Зямля, што належыць да аднаго гаспадара, складаецца звычайна з некалькіх кускоў, з гадамі то насьледаваных, то купленых. Насьледаваная называецца „*надзельнаю*“, купленая—„*купленаю*“. Скарбовы ўрад, Павятовы Выдзял і Валасьць вызначаюць падаткі на *кожны з гэтых кускоў асобна* і наказы, а таксама прыпомненьні гэткім спосабам перасылаюць.

Дапусьцем, што які-небудзь вясковец мае зямлю, зложаную з трох кускоў — аднаго *купленага* і двух *надзельных.* Дык і атрымлівае ён *тры „наказы платнічэ“* з Скарбовага Ураду на зямельны падатак, тое самае з Воласьці на валасны падатак, з Павятовага Выдзялу на дарожныя аплаты, плюс адзін на страхоўку, разам 10 наказаў, — а калі не заплаціць у срок, дык — *10 прыпомненьняў,* 10 сэквэстратараў і г. д., і г. д. Увосень прыходзіць *10 новых наказаў і гісторыя паўтараецца. Ужо ад прыпомненьня* пачынаюцца экзэкуцыйныя кошты па 1 зл. 50 гр. у сярэднім за прыпомненьне, дык у дадзеным, значыцца, выпадку было-б 15 злотых за прыпомненьні, тое-ж самае за сэквэстры і да гэтага падобныя экзэкуцыйныя дзейнасьці.

Скарбовы Урад дзеліць заплачаныя сумы на *свае і чужыя.* Чужымі зьяўляюцца падаткі: валасныя і соймікавыя, і страхоўка. Тымчасам экзэкуцыйныя кошты, калі ўжо ёсьць і такія, інкасуе ўсе Скарбовы Урад і *рашуча іх зыскае* (egzekwuje), хоць-бы нават самы падатак і быў заплачаны.

Дык платнік на вёсцы мае *квіты, ў залежнасьці ад таго, каму ён заплаціў: з касы Скарбовага* Ураду, з Сойміку, з Воласьці, ад старасты (sołtysa), або блянкі Р.К.О. як хочучы, звычайна, і нядбала выпісваныя, *без паказваньня нумару прыпомненьня і нумару пазыцыі берчае кнігі.* Есьць там толькі ўспомнены назоў падатку, прозьвішча платніка і за якую рату, якога году гэты падатак уносіцца.

Варта было-б яшчэ дзеля точнасьці ўспомніць пра *залегласьці,* каторых цяпер кожны гаспадар мае бяз ліку, і сумы, ім заплачаныя, ідуць перш за ўсё на *экзэкуцыйныя кошты* і *залегласьці* гэтак доўга, аж пакуль *бягучыя падаткі зробяцца ізноў залегласьцямі і платнік, — мужык цёмны, часта анальфабэт,—ніколі ня ведае,* што ён ужо заплаціў, а чаго не. Бо асабліва сумы, плачаныя праз Р.К.О. — што па вёсках найчасьцей практыкуецца, — бываюць у шмат якіх урадах *як хочучы* (!) *залічваныя* на той ці ізноў-жа іншы падатак, у той час, калі платнік на блянку мае напісаным што іншае.

У гэтым стане рэчаў сэквэстратар з багажом тытулаў — каля 500 штук—двутыднёвы прыдзел,—прыяжджае ў вёску дзеля правядзеньня экзэкуцыйных дзейнасьцяў.

Па скончаньні прыдзелу, з кожнага тытулу падае рапарт, як і чаму яго выканаў. Аб невыкананьні тытулу піша *рэляцыю. а кожная рэляцыя ёсьць для яго недастатковым балам і вядзе па простай*

арнамэнтамі і малюнкамі („Нёман“, „Калосьсе“, „Кастусь Каліноўскі“, „На сонечны бераг“, „На прадвесьні“, „Студэнцкая думка“ і т. д.) Апрача *графікі,* Сергіевіч займаецца *сьценным малярствам* і на гэтым полі ўжо можа пахваліцца значнымі працамі. Ім выкананы 34 вялікія абразы з орнамэнтацыяй у касьцеле ў м. Солы, Ашмянскага павету, прэзбітэрыум (фігуральная композыцыя) і орнамэнтацыя ў наве (сярэдняй частцы касьцёлу) у м. Корац на Валыні (Роўненскі павет). Зразумела, што ў гэтых малюнках распрацаваны біблійныя матывы. Але яны распрацаваны беларускім мастаком. Праца ў галіне сьценнага малярства вельмі цяжкая з розных прычын, над якімі мы спыняцца ня будзем. Трэба было бачыць, колькі падгатаваўчых шкіцаў зрабіў мастак на паперы, каб уявіць аграмадную трату творчае энэргіі. Першым хіба выступам Сергіевіча на полі сьценнага малярства было рэстаўраваньне ім малюнкаў у касьцеле Сьв. Тэрэсы (Вострабрамскі касьцёл) у Вільні.

Зразумела, што сфатаграфаваць усе гэтыя працы і паказаць на выстаўцы мастак ня меў магчымасьці, а грамадзянства нашае... Аб каляровых фатаграфіях і няма мовы. У нас не знайшлося нават асобы, або інстытуцыі, якая зрабіла-б альбом звычайных фатаграфіяў абразоў Сергіевіча.

Сергіевіч працуе і ў галіне *мастацкай крытыкі.* Вядомы яго артыкулы ў „Нёмане“. Калісь, за часоў існаваньня Літэратурна-Мастацкай Сэкцыі ў Беларускім Навуковым Т-ве, чытаў ён лекцыю на тэму „Аб мастацтве“. Варта было-б яе апублікаваць...

— —

Сергіевіч прыймаў удзел у выстаўках Саюзу Незалежных Артыстаў-Мастакоў („Związek Niezależnych Artystów-Malarzy“) у Вільні ў 1933 і 1934 г., у Варшаве—у 1933 г. у „Zachęcie“ (таксама выстаўка Z. N. A. M.).

———

Для зразуменьня творчасьці паэта, мастака, кожнага чалавека неабходна пазнаць грунт, на якім яна разьвівалася, грунт, на якім рос сам тварэц Таму *жменя біографічных дадзеных* аб Сергіевічу дапаможа нам бліжэй зразумець і яго, і яго творчасьць.

Радзіўся Сергіевіч у 1900 г. ў в. Стаўрова, Браслаўскага павету (уезда). Бацькі ён ня памятае. Маці — бедная сялянка. Увесь амаль час да 1917 году прабыў Сергіевіч у сваёй роднай вёсцы. Праўда, здарыліся ў гэтым часе выпадкі ў яго жыцьці, якія мелі вялікі ўплыў на яго творчае разьвіцьцё. Ад 1908-1914 г. вучыўся будучы мастак у царкоўна-прыхадзкай школе. У 1907 г. прыехаў ён з маткай у Вільню, дзе прабыў год у Мантвілаўскім прытулку для дзяцей. Тут, між іншым, вучыцелька зьвярнула ўвагу на рысунковыя здольнасьці Сергіевіча. Вельмі важным быў побыт Сергіевіча ў фабрычнай школе (недалёка Стаўрова была фабрыка *паперы*), дзе вучылі таксама рысаваньню. У 1917 годзе едзе Сергіевіч у Пецярбург на фабрыку, дзе робяць грошы (менніца). Там ён змог хадзіць на фабрычна-тэхнічныя курсы. дзе прабыў адзін год. У працягу гэтага году Сергіевіч здабыў агульную сярэднюю асьвету і, што больш важна, вучыўся рысаваць. На яго зьвярнуў асаблівую ўвагу вучыцель-мастак Андрееў. На фабрыцы Сергіевіч меў сутык з хварбамі. У 1919 г.—Вільня. У 1920 г. Сергіевіч запісваецца вольным слухачом у Віленскі Унівэрсытэт на факультэт мастацтва. У 1923 г.—выезд у Кракаў і цэлы год працы (1924/25) ў гэтым месьце. Пасьля — праца ізноў у Віленскім Унівэрсытэце. У 1928/29 г. Сергіевіч Унівэрсытэт скончыў. Ад гэтага часу працуе самастойна, у надта дрэнных матэр'яльных варунках. Летам — выезд на вёску, да сястры і маці (маці памёрла ў 1935 г. ў веку 68 г.). Узімку—праца ў Вільні. Гэта, так сказаць, „зімні сэзон“. Мастак наймае пакой з вялікімі вокнамі і інтэнсыўна працуе. Мастак разумее, што для творчага поступу, для разьвіцьця—неабходна ўтрымліваць сталы контакт з местам—цэнтрам культуры.

Удзел у грамадзкім беларускім жыцьці Сергіевіч прыймае перадусім, як мастак. (Ад 1921 — 28 г. быў ён сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні). Мастацтва—вось мэта, да якой шагае Сергіевіч сьмелай ступою, перамагаючы ўсе жыцьцёвыя перашкоды. Ён і не дапушчае думкі аб якой-небудзь „пасадзе“, бо яна забівала-б яго творчасьць Вільня выкалыхала Сергіевіча. Вялікія месты раджаюць слаўных людзей...

Бязумоўна, Вільні—мала. Сергіевічу перадусім патрэбна мастацкая культура, бо ідэйна ён ужо амаль вызначыўся. Ні машыны, ні маторы, ні футурызм або кубізм і т. п. — не ўласьцівы Сергіевічу. Сокі для сваёй творчасьці ён чэрпае з беларускай зямлі, з беларускага духу; палотны Сергіевіча цьвітуць усімі колерамі беларускіх даляў. На пытаньне, куды-б паехаў мастак, калі-б былі матэр'яльныя магчымасьці, мы пачулі адказ: у Парыж.—Бо там — казаў Сергіевіч—можна пабачыць мастацтва ўсіх часоў і народаў, у той час, як у Італіі—толькі пэўную эпоху.

Калі-ж наш народ зможа высылаць сваіх здольных сыноў у заграничныя падарожжы?...

Мы верым, што час такі прыйдзе! І тады *Сергіевіч будзе адным з першых...*

*Х. І.*

*лініі да звальненьня. Сэквэстр (опіс) ёсьць балам ледзь дастатковым і толькі пазыцыі гатоўкі, звозкі, ліцытацыі — балам, які вядзе да мэты...*

Трэба падчыркнуць, што кожны сэквэстратар мае пры сабе *правілы і табэлі жывога і мёртвага інвэнтару*, зьвязанага з дадзенаю гаспадаркаю, у залежнасьці ад яе велічыні, *каторага ён нарушыць, як быццам, ня мае права*, г. зн. *мінімум"*, але сягоньня па вёсках нярaз ніводзін гаспадар *нават і гэтага мінімуму ня мае.*

Як сэквэстратар у гэтай дзявочай пушчы дае сабе раду?...

— Я сам быў сьведкаю, — піша п. Ул. Скалэцкі, — у адной вёсцы на Палесьсі, калі гаспадар, (у дужках кажучы,) лёяльны платнік, як я пасьля праверыў, абураны на праводжваньне ў яго экзэкуцыі за незаплачаныя падаткі, паводле яго несправядліва, выкрыкваў, зьвяртаючыся да грамады людзей на падворку, нястворaныя рэчы, ад каторых вушы пухлі і каторыя патрыёту былі нявымоўна няпрыемнымі.

— Маю ўражаньне, — кажа ў канцы ўсяго аўтар, — што ўжо даўно пара зрабіць радыкальныя рэформы Скарбовых Урадаў, бо гэтага вымагае: *Дзяржаўны інтэрас, дабро народу і грамадзкая справядлівасьць!*

## Аўстрыя і Вэнгрыя

Як ведама, Ліга Народаў пад уплывам Англіі пастанавіла застасаваць у адносінах да Італіі, так званыя, санкцыі, ці, інакш кажучы, пастанавіла спыніць прывоз італьянскіх тавараў і вываз у Італію пэўных тавараў, якія ёй патрэбны перадусім у вайне з Абісініяй. Зразумела, што гэная пастанова зьяўляецца абавязкавай толькі для сяброў Лігі, або дзяржаваў, якія ўваходзяць у Лігу, але і з іх Швайцарыя, Альбанія, Аўстрыя і Вэнгрыя не згадзіліся на санкцыі, матывуючы сваю адмову тым, што іх гаспадарчае жыцьцё ў вялікай меры зьвязана з тавараабменам паміж імі ды Італіяй. Аднак у гэнай адмове як Аўстрыі, так і Вэнгрыі, відаць, адыгрывалі ролю перадусім палітычныя матывы і таму ня лішнім будзе хоць агульнае знаёмства з сучасным палажэньнем успомненых дзяржаваў.

Пасьля сусьветнае вайны і распаду Аўстра-Вэнгерскай Імперыі *Аўстрыя* стала рэспублікай з абшарам 83.883 квадр. кілём. і з насельніцтвам каля 8-х мільёнаў чалавек. Сталіцай Аўстрыі зьяўляецца Вена з насельніцтвам звыш 2-х мільёнаў чалавек.

Аўстрыі было дазволена трымаць 21 тысячу войска, але потым войска павялічана да 36 тысячаў салдат з 1.500 афіцэрамі.

Згодна з мірнымі дагаворамі у 1919—1920 г. Аўстрыя ня мае права ўводзіць у сябе агульнай вайсковай павіннасьці, мець вайсковы паветраны флёт, танкі, цяжкую артылерыю звыш 4-х цаляў і запаснoе войска, і таму войска Аўстрыі набіраецца вербовачнай сыстэмай; срок службы — 6 гадоў.

Войска Аўстрыі складаецца з 6-х мяшанах брыгад, у склад якіх уваходзіць 32 батальёны пяхоты, 9 эскадронаў кавалерыі і 27 батарэяў артылерыі. Змабілізаваных можа быць каля 800 тысяч чалавек. Апрача войска Аўстрыя мае 8 тысяч жандармаў.

*Вэнгрыя* — каралеўства. Каралём зьяўляецца Оттон 1-ы — сын апошняга імператара Карла, радзіўшыся у 1912 годзе. Аднак Антанта забараніла прыезд Оттона ў Вэнгрыю, і дзяржавай кіруе рэгент адмірал Хорці.

Вэнгрыя займае абшар 92.720 кілёмэтраў (перад вайной 327.791 кв. кілём.) з насельніцтвам каля 10-х мільёнаў чалавек, з якіх 90 працэнтаў вэнграў, 7 працэнтаў немцаў і 3 працэнты іншых.

Сталіцай Вэнгрыі зьяўляецца Будапэшт з насельніцтвам звыш мільёна чалавек.

Колькасьць войска Вэнгрыі, таксама як і Аўстрыі, абмяжована мірнымі дагаворамі 1919-1920 гадоў, згодна з якімі Вэнгрыі забаронена ўводзіць агульную вайсковую павіннасьць, мець вайсковыя самалёты, цяжкую артылерыю ды запаснoе войска.

Агульная лічба войска згодна з Трыанонскім мірным дагаворам ня можа перавышаць 35-х тысяч салдат і 1750 афіцэраў.

Войска складаецца з 7-х мяшаных пяхотных і 2 конных брыгадаў, усяго 49 батальёнаў пяхоты, 15 эскадронаў кавалерыі і 26 батарэяў. Акром таго ёсьць 54 роты жандармаў у л'ку 12-х тысяч чалавек.

Вэнгрыя належыць да лічбы тых дзяржаваў, якія нездаволены сучаснымі граніцамі ў Эўропе і імкнуцца гэныя граніцы зьмяніць, ці інакш кажучы, належыць да рэвізыяністычнай групы дзяржаваў.

*К.*

## Разьвіцьцё Школьнае Касы Ашчаднасьці Беларускай Гімназіі ў Вільні.

Ідэя ашчаднасьці знайшла жывое зразуменьне ў Віленскай Беларускай Гімназіі. У гімназіі гэтай вучыцца сяньня агулам 167 вучняў (ніцаў). З боку сацыяльнае расслойкі бацькоў — 77 зьяўляецца дзяцьмі сялян, 14 — духаўнікоў, 26—рабочых, 42—урадоўцаў і вучыцялёў, 8—вольных прафэсіяў. Такім чынам, вялізарная большасьць вучняў паходзіць з грамадзкіх пластоў, для якіх ідэя ашчаднасьці мае першараднае значэньне.



Школьная Каса Ашчаднасьці.

Разумеючы гэта, Дырэкцыя гімназіі робіць усе магчымыя высілкі, каб прапагаваць ідэю ашчаднасьці, якая стварыла-б з вучняў гімназіі будучых піонэраў ашчаднасьці ў родных вёсках і мястэчках.

Арганізацыяй, якая стаўляе галоўнай мэтай прапаганду лёзунгаў адшчаднасьці на грунце школы і прывучаньне вучняў да ашчаджаньня, ёсьць Ш. К. А. (Школьная Каса Ашчаднасьці). Арганізацыя такая ў гімназіі паўстала ў 1934/35 шк. годзе, дакладна — 14.X.1934 г.

Рсзьвіцьцё Ш. К. А. сустрэчала розныя перашкоды, выплываючыя часткова з цяжкога матэр'яльнага палажэньня вучняў, а часткова з пачаткавага незразуменьня ідэі ашчаднасьці.

Дзеля гэтага ў мінулым шк. годзе дзейнасьць Ш.К.А. абмяжоўвалася амаль выключна малодшымі клясамі г. зн., I-ай, II й і VI-ай, а сяброў было ня шмат. Дзейнасьць Ш.К.А. у мін. шк. годзе ламала аднак-жа першыя льды засьцярогаў і недаверу; і ўжо ў пачатку гэтага году лік сяброў абыймаў 30 асобаў, а сума іх укладаў 15 зл. 21 гр. Працай Касы кіраваў Урад, зложаны з 3 асобаў: старшыні, сэкрэтара і скарбніка, кантраляваных 3-ма асобамі, творачымі Рэвізыйную Камісію.

Выходзячы з асягненьняў мінулага году, пастаноўлена было ў пачатку гэтага году разгарнуць жывую прапаганду, дзякуючы якой Ш.К.А абхапіла-б у свой засяг усіх вучняў. Дзеяльнасьць гэтая ў першых паўгодках дала вельмі яскравыя вынікі.

Перадусім пастаноўлена было выкарыстаць Дзень Ашчаднасьці 31.X.35 г. для абзнаямленьня ўсіх вучняў з працай і заданьнямі Ш.К.А. У гэты дзень Ш.К.А. адчыніла ў гімназіі ўласны кіёск. Кіёск гэты, падобны да аграмаднай скарбонкі пастаўлены на калідоры, сваім эстэтычным выглядам выклікаў агульную сэнсацыю і зацікавіў вучняў дзяльнасьцяй Ш.К.А.

Далей, у гэты-ж самы дзень было зладжана сьвята Дня Ашчаднасьці з агітацыйнымі прамовамі, у якіх былі зарысованы мэты і дзейнасьць Ш.К.А Прамоўцы заклікалі вучняў запісвацца ў сябры Касы і і складаць у яе свае ашчаднасьці.

У выніку гэтага лік сяброў Касы узрос у найбліжэйшым часе да 88, а дзейнасьць Касы знаходзіць такое жывое зацікаўленьне сярод вучняў, што трэба спадзявацца ў найбліжэйшай будучыні 100 прац. удзелу вучняў у Ш.К.А.

Лічбова стан Ш.К.А. прадстаўляецца ў сучасны мамэнт наступна: Лік сяброў—88, Сума ўкладаў—55 зл. 60 гр., на кніжцы П.К.О. № 105618 — 66 зл. 30 гр.

Сябрамі Ш.К.А. зьяўляюцца ня толькі паасобныя вучні, але і некаторыя вучнёўскія арганізацыі, як, напр., Самаўрад хлапцоўскага Інтэрнату пры Бел. Гімназіі, а таксама адзін з аддзелаў Скаўцкай Дружыны імя Фр. Багушэвіча.

18 сьнежня 1935 г. візытаваў нашу Ш.К.А. прадстаўнік П.К.О., які прамаўляў да вучняў. Бяручы пад увагу перашкоды, якія спатыкала арганізацыя Ш.К.А. на шляху сваей працы ў школе, трэба сьцьвердзіць, што асягненыя вынікі могуць выклікаць поўнае задаваленьне нашага грамадзянства.

*В. Р.*

## Сустрэча Новага Году ў Аб'яднаньні Бел. Жанчын.

Аб'еднаньне Беларускіх Жанчын імя А. Пашкевічанкі (Цёткі) зладзіла сустрэчу Новага Году. Прысутных было больш 40 асоб.

Трэба адзначыць, што арганізатары патрапілі вытварыць вельмі сымпатычную атмосфэру — усе ўчасьнікі сустрэчы чуліся, як адна вялікая сям'я.

## Сэсыя Рады Лігі Нацыяў

Сэкрэтарыят Лігі Нацыяў апублікаваў часовы парадак паседжаньня 90-ай чарговай сэсыі Рады Лігі Нацыяў. Сэсыя пачнецца 20 студзеня 1936 году. Самым важным пунктам парадку дня зьяўляецца італа-абісінскі конфлікт, але аб парадку далейшага абгаворваньня гэтага конфлікту ў афіцыяльным паведамленьні нічога не ўпамінаецца. На павестку дня ўнесены таксама некаторыя данцыгскія пытаньні.

## Да нашых падпісчыкаў.

Рэдакцыя паведамляе ўсіх сваіх падпісчыкаў, што тыя, хто прышле падпісную плату на „Родны Край" адразу за ўвесь 1936 год атрымае беларускі календар — кніжку на 1936 г.

Календар-кніжка мае вельмі багаты зьмест—стары і новы стылі, усход і захад сонца, перамены месяца і пагоды, інфармацыйны аддзел, кароткі гістарычны нарыс аб Віл. Бел. Гімназіі (з фатаграфіямі), публіцыстыка, лекарскія рады, сьпіс лекаў хатняе аптэчкі для жывёлы, гаспадарчыя рады, кароткія разказы і вершы.

## Чыгуначная катастрофа каля Вільні.

Ноччу на 8 студзеня на жалезна-дарожнай лініі Вільня Маладэчна, у 6 кілём. ад Н. Вілейкі каля паўстанка Ківішкі, сталася самая вялікая за апошнія гады на Віленшчыне жалезна-дарожная катастрофа.

Пасажырскі цягнік, які выйшаў з Вільні ў 23 гадз. з мінутамі і направіўся ў Маладэчна і Аляхновічы зыйшоў з рэльсаў. У цягніку знаходзілася каля 100 асоб, пераважна купцоў, якія ехалі на рынак у Смаргоні. 2 асобы забіты, каля 30 раненых. Чыгуначная камісія сьцьвердзіла, што катастрофа не прыпадковая, бо аказалася, што рэльсы нехта разшрубаваў сумысьля.

Вынікі сьледства яшчэ не абвешчаны.

## На абісінскім фронце

Паводле атрыманых вестак маршалак Бадоліо (камандзір італьянскіх войскаў у Абісініі) пачне наступленьне на абісінскім фронце толькі тады, калі атрымае новы транспорт салдатаў.

Італьянская армія ў Абісініі, якая налічвае цяпер 250.000 салдатаў, будзе дзеля гэтага павялічана на 150.000 чалавек, якія магчыма хутчэй павінны быць змоблізаванымі.

У Абісініі надыходзіць пэрыад дажджоў і італьянскае камандаваньне пастанавіла, відаць, яшчэ да прыходу гэтага пэрыаду вярнуць захопленую ў першыя месяцы вайны абісінскую тэрыторыю, якая часткова была адабрана ізноў абісінцамі.

---

Аўстрыйскія газэты паведамляюць, што італьянцы пачалі на ўсіх фронтах шырака ўжываць газы. Асабліва шмат газавых бомбаў скідываецца на паўдні ад Макальле. Агулам у першых днях студзеня скінута 20.000 газавых бомбаў.

## Разрухі ў Эгіпце

У сувязі з тым, што ў апошніх днях ізноў узмоцніліся выступленьні эгіпецкіх нацыяналістаў скіраваных проціў Англіі, эгіпецкім войскам дадзены загад памагаць паліцыі пры спыненьні беспарадкаў у Эгіпце. Адначасна ўрад загадаў рэктарам унівэрсытэтаў і дырэктарам школаў зараз-жа выключаць студэнтаў і вучняў, якія не зьяўляюцца на лекцыі і замешаны ў палітычнай агітацыі.

## Бунты у савецкай Сібіры

Паводле атрыманых вестак з Токіо, у працягу апошніх месяцаў на сав. Далёкім Усходзе было зроблена болей 200 бомбавых нападаў на чыгунку, ваенныя склады і інстытуцыі.

У Нерчынску, Хабараўску і Уладывастоку выбухлі бунты, у якіх прыймалі ўдзел і часьці Чырвонай Арміі. У часе сутычак з атрадамі Г.П.У. згінула каля 300 чалавек. Яны атручаны ў турме газамі. У ваколіцах Байкалу карная экспэдыцыя здушыла некалькі сялянскіх бунтаў.

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.